[redacted]

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!...
Я.КУПАЛА

[redacted]



sumezha

# СУМЕЖЖА

№11 (95) Заснавана ў 1991 годзе. Лістапад 2000 г.


*Фота А. Ліціна*

## Рыба людзям не па кішэні

У лепшыя свае часы толькі адбівалася дырэкцыя рыбгаса "Навінкі" ад жадаючых купіць свежанькага карпа. Тамтэйшыя рыбаводы працаваць сталі не горш, аднак зараз збыту сваёй прадукцыі не маюць. На пачатак лістапада заставаліся на галодным пайку ў вадзе і трацілі вагу больш 70 тон з вылаўленых сёлета 240 тон карпа. Раней да 800 тон гэтай прадукцыі лёгка разыходзіліся ў сталіцы, гарадах і райцэнтрах вобласці. Зрэшты, такі ж сумны малюнак у цэлым па Беларусі, дзе штодзённа аб'яднанне "Дзяржрыбгас" несла страты да трох тон схуднеўшай злоўленай рыбы. Так абяднелі беларусы, што не ў стане паласавацца рыбай коштам да 1400 рублёў за кілаграм. У тры разы скарацілася спажыванне рыбы ў краіне і склала на чалавека 6 кг у год – паказчык бяднейшых краін свету. Адначасова не маюць збыту і айчынныя мясакамбінаты. Народ сеў на дыету – хлеб, ды бульба з капустай.

## Вечна ўчарашнія

Цікавую з'яву нашых дзён днямі пабачыў карэспандэнт "Камсамольскай праўды на Беларусі" у абласным цэнтры. У Віцебску ў дзень другога тура парламенцкіх выбараў на адзін з выбарчых участкаў з раніцы прыпаўзлі некалькі старых прыхільнікаў Лукашэнкі і доўга чакалі, пакуль іх не адправіў дамоў вартаўнік школы. Ну, не ведалі людзі сталінскай загартоўкі, што ў іх горадзе выбары народ праігнараваў і тут пройдуць паўторыя. У Паставах да падобных кур'ёзаў справы не дайшлі. Але ў чарговую гадавіну бальшавіцкага перавароту зноў не абышлося без традыцыйных кветак чорнаму манументу-ідалу і сходу прыхільнікаў мінулага. Сумуе частка ветэранаў і цяперашніх начальнікаў аб савецкіх парадках. Быццам не было арыштаў, Калымы, здзекаў над гаспадарамі і шмат чаго дрэннага ў краіне, дзе нявольна дыхаў чалавек.

## Гіне цэлая галіна

Дрэнную вестку для сябе атрымалі ў калектыве Пастаўскага кансервавага завода. Не толькі іх прадпрыемства, але і яшчэ шэсць аналагічных заводаў аб'яднання "Віцебскхарчпрам" апынуліся на мяжы закрыцця. Яшчэ мелася нейкая надзея, што ўдасца знайсці на буйной ярмарцы ў Ніжнім Ноўгарадзе рынак збыту кансерваў на бязмежных абшарах Расіі. Але вярнуліся пасланцы вобласці ні з чым. У суседзяў набіраюць моц свае заводы, прыватызаваныя, абсталяваныя сучаснай тэхнікай, выпускаюць якасную прадукцыю ў люкс-упакоўцы, а не ў прымітыўных слоіках, як беларусы. А яшчэ ў расіян сокі і таматы таннейшыя за нашы. Тое, аб чым папярэджвалі разумныя эканамісты, адбылося. І гэта толькі пачатак краху для многіх іншых нерэфармаваных беларускіх заводзікаў. Што датычыцца кансерваў, дык у нас "закаткі" робяць усе не горш фабрычных.

## За рысай беднасці

Ужо ні для каго не сакрэт, наколькі галеча і беднасць увайшла ледзь не ў кожны дом жыхара Пастаўшчыны. Пацвердзілі гэта і статыстычныя дадзеныя аб заробках працаўнікоў раёна, якія надрукаваў афіцыйны орган улады – газета «Пастаўскі край". Сумныя і страшныя лічбы гэтыя асабліва ўражваюць на фоне змешчаных у дзяржпрэсе новых сярэднедушавых мінімальных спажывецкіх бюджэтаў у цэнах верасня 2000 года. Дык вось, калі па раёну сярэднемесячны заробак складаў у верасні 45693 рублі, дык хапіла б яго на тое, каб згодна дзяржаўнай ацэнкі мінімальна забяспечыць толькі дзяўчынку, або аднаго хлопчыка ва ўзросце да трох гадоў. Але тысячы, пэўна, дзесяткі тысяч на Пастаўшчыне і гэтай сумы не маюць. Застаецца толькі здзіўляцца пакорлівай згодзе большасці існаваць у такіх нечалавечых умовах. Задумайцеся, людзі, адзін віцебскі

студэнт, які летам на канікулах трапіў у ЗША і акрамя працы ў кніжным магазіне за 80 доляраў у дзень, яшчэ вечарам дапамагаў афіцыянту за 40 доляраў за чатыры гадзіны працы. Вам, шаноўныя землякі, такой сумы да канца жыцця не зарабіць, якую прывёз з-за акіяна малады хлопец з галавой і добрым веданнем англійскай мовы. Пра ягоныя прыгоды за акіянам расказала газета "Віцебскі кур'ер".

## Банкаўскія страсці

Хацелася б памыліцца, але варта чакаць з 1 студзеня 2001 года ўсім нам чарговых жыццёвых выпрабаванняў. Усё ж у краіне цудаў пад назвай "Советская Белоруссия" народ стабільна і натхнёна будуе "рынкавы сацыялізм". А раз сацыялізм, дык абавязковы атрыбут яго - чэргі і нейкі дэфіцыт. Дык вось у першыя дні трэцяга тысячагоддзя такія чэргі з'явяцца ва ўсіх банках раёна. Паколькі выводзяцца з абарачэння недэнамінаваныя разліковыя білеты і разліковыя білеты ўзору 1992 года (так завуць у нас беларускія эрзац-грошы), іх загадана адмяняць на банкноты ўзору 2000 года. Можа ў сталіцах гэтых "домікаў" новых і дастаткова, а на Пастаўшчыне іх на руках у людзей малавата. Вось і паходзім мы па канторах, пастаім у чэргах. Заспакойвае, што гэта цэрымонія працягнецца цэлы год, а самых нязграбных будуць абслугоўваць да канца 2003 года. Яшчэ не забыліся тры страшныя дні, калі ў нас выводзіліся з абарачэння савецкія рублі.

## Абрабавалі прадпрымальніка

Побач з масавым п'янствам у нашай гордай славянскай дзяржаве, кінуўшай дзёрзкі выклік "дзікаму Захаду", крадуць усё больш і больш. Раніцай аднаго дня напрыканцы кастрычніка ў мікрараёне вуліцы Юбілейнай у райцэнтры невядомы ці група злодзеяў дзёрзка залезлі ў кватэру аднаго з не апошніх у горадзе прадпрымальнікаў. Кажуць, як пацукі шарылі па ўсёй кватэры, нават абшыўку мэблі парэзалі і даволі значную суму ў валюце знайшлі. У інтарэсах следства падрабязнасці здарэння міліцыяй не раскрываюцца. Вядома, што ў той дзень каля дома №12 круціўся нейкі падазроны малады хлопец. Гэта ўжо не першы выпадак з абрабаваннем заможных людзей, зарабіўшых нейкія грошы сваім талентам і працай. Вясной, быццам у насмешку над міліцыяй, злодзеі дэманстратыўна абрабавалі кватэру не радавога супрацоўніка праваахоўчых органаў. Але падобная небяспека з боку злодзеяў і бандытаў зараз можа пагражаць кожнаму. Кепскі гэта знак бяды, у якую патрапіла ўся краіна. У нармальных краінах на Захадзе людзі жывуць намнога спакайней, бо там пераважае забяспечаны сярэдні клас, а не люмпен, як на Беларусі.

## Пенсіянерам варта паспяшацца

Калі моладзь і сярэдняе пакаленне яшчэ імкнуцца атрымаць новыя беларускія пашпарты, то старыя людзі ігнаруюць гэты працэс. За чатыры апошнія гады па звестках паспартна-візавай службы УУС вобласці пашпарты новага ўзору з лукашэнкаўскай сімволікай атрымалі каля 40 працэнтаў жыхароў вобласці. А між тым, асабліва пенсіянерам, варта ўжо зараз паспяшацца пару разоў з'ездзіць у пашпартны стол у Паставах. Патрабуе гэта новаўвядзенне праз два гады. З 1 студзеня 2003 года новы закон аб пенсіях прадугледжвае персафікаваны ўлік адлічэнняў у пенсійны фонд на асабісты рахунак, які павінен адпавядаць асабістаму нумару згодна дадзеных новага пашпарта. Каб не мець непрыемнасцей потым, варта ўжо зараз многім сфатаграфавацца на каляровы ці чорна-белы здымак і з неабходнымі паперкамі пачаць афармляць прыналежнасць да беларускай дзяржавы.

## Няўпраўкі на палетках

Не ведаю, што б здарылася з лёсам ураджаю ў выпадку халоднай дажджлівай восені. Але на працягу двух месяцаў надвор'е, нягледзячы на пару дзён замаразкаў, проста радавала ўсіх. Тым не менш нават у такіх ідэальных умовах яскрава выявілася ўся маса праблем гаспадарак, многія з якіх праз год-два проста разваляцца. Калі такое адбывалася, каб ворыва зябліва правялі толькі на пятай частцы запланаваных плошчаў. Больш 15 тысяч гектараў чакалі, калі там загудзяць трактары. Дзеля справядлівасці не толькі ў нас моцна стрымліваў ход работ недахоп паліва. На Глыбоччыне стала так дрэнна з саляркай, што многія фермы патанулі ў гноі, бо не было як вывозіць. Зрэшты, ідзе на дно і сама калгасная сістэма. Галоўны яе абаронца ўпарта не жадае аддаць вяскоўцам сродкі вытворчасці з зямлёю, ці прадставіць большай свабоды гаспадарання.

## Яшчэ адна газетная навінка

У канцы кастрычніка выйшаў першы нумар "Тамары" - літаратурнага дадатка да рэгіянальнай жаночай газеты "Сяброўка", якая са жніўня выдаецца ў нашым горадзе. Да ўвагі чытачоў прадстаўлены: жахлівае старажытнае паданне з Глыбоччыны "Каруся", вершы з цыклу "Анталогія Пастаўскай паэзіі" і іншае. З-за невялікага накладу дадатак ўжо стаў амаль што рарытэтам. У далейшым плануецца выдаваць дадатак не радзей чым раз на два месяцы.

Неўзабаве пачне выдавацца і літаратурны дадатак да газеты "Крэсы"(KRESY).

***Падрыхтаваў У. Шык***

# Мяркуйце самі

## Абяцаў і нічога не зрабіў

*Іншым разам нават здзіўляешся, наколькі лёгка грамадзянін Лукашэнка забыўся на тое, што абяцаў даверлівым людзям палепшыць у нашым жыцці. Але, напэўна, хлусня і падман вызначаюць нормы паводзін гэтага чалавека на кожным кроку.Ва ўсялякім разе да такой высновы прыходзіш, калі ўзгадаеш адзін з асноўных пунктаў ягонай перадвыбарчай праграмы, дзе гучна абяцалася "забяспечыць усім бясплатнае лячэнне на еўрапейскім узроўні".*

## Не здаровіцца самой медыцыне

З гэтых пустых слоў спраўдзілася толькі адно. Менавіта толькі сабе "народны прэзідэнт і сваім прыбліжаным забяспечыў надзейную ахову, у тым ліку і каштоўнага свайго здароўя. Бачна, які здаровы вобраз жыцця вядзе. І бегае штодзённа на лыжароллерах, і плавае ў басейне, ганяе шайбу і тройчы на тыдзень расслабляецца з венічкам у парылцы.. Нават радыкуліт здолеў залячыць. Аб'ектыўныя паказчыкі стану здароўя насельніцтва Беларусі і існавання айчыннай сістэмы здароўя тым часам істотна пагоршыліся:

-Усеабдымны сістэмны крызіс, выхаду з якога і не праглядваецца, паграsevere ўжо самому існаванню беларускай нацыі.

-Колькасць зарэгістраваных захворванняў з пачатку 90-х гадоў павялічылася ў 1,3 разы.

-Чаканая працягласць жыцця за 1994-1999 гады паменшылася на 3,2 гады; назіраецца інтэнсіўны рост смерцяў сярод мужчын маладога працаздольнага веку, а ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях яны проста паміраюць, не дажыўшы да пенсіі.

-У, на словах, быццам бясплатнай медыцыне сёлета платныя паслугі бальніц і паліклінік выраслі ў цане на 200%, з 2001 года за выключэннем некаторых катэгорый, для астатняга насельніцтва поўнасцю платнымі становяцца паслугі ўрачоў-стаматолагаў.

-Кваліфікаваную медыцынскую дапамогу і лепшыя лекі можна атрымаць у нешматлікіх лечустановах, або ў платных клініках для людзей з тугім кашальком.

-На патрэбы айчынай сістэмы аховы здароўя на душу насельніцтва зараз выдзяляецца ў Беларусі ў дзесяць разоў менш сродкаў , чым у краінах Еўропы.

-У краіне выдадзена ўжо больш двух тысяч ліцэнзій на арганізацыю прыватнай медыцынскай дапамогі. У буйных гарадах за грошы лечаць не толькі зубныя ўрачы, як у нашай мясцовасці, але ўсе спецыялісты за выключэннем венеролагаў і анколагаў.

-Як ні горка, Пастаўскі раён мае найгоршыя паказчыкі на Віцебшчыне па забеспячэнню медыцынскімі ложкамі і персаналам, некаторыя ўстановы ў глыбінцы гаруюць у прыстасаваных памяшканнях, няма ў нас у горадзе нармальнай аптэкі з неабходнымі лекамі па даступных большасці цэнах.

-Прафесія ўрача становіцца ўсё больш непрэстыжнай і малааплачваемай, маладыя ўрачы ўцякаюць у прыватныя структуры і ніхто не хоча ехаць на вёску



мясціць глебу за 20-40 долараў у месяц.

-Сёння большасць урачоў не маюць грошай, каб набываць неабходную медыцынскую літаратуру, людзей у белых халатах, як тых рабоў, выганяюць у поле палоць буракі, касіць сена замест дапамогі хворым людзям.

-Спецыялісты б'юць трывогу, што пачалося генетычнае выраджэнне беларускай нацыі і сацыяльнай дэградацыі насельніцтва з-за празмернага ўжывання алкаголю, якога летась краіна на кожнага чалавека выпіла 9,9 літра ў пераліку на чысты спірт (да прыходу Лукашэнкі да ўлады пілі 7,1 л за год). Сусветны гранічнакрытычны паказчык – 8 літраў.

-Аднак уладам проста выгадна масавае спойванне людзей, чаго вартая рэклама чарачкі са скварачкай, быццам асноўнай мэтай жыцця беларусаў.

-Таму ў нас такія нізкія цэны на гарэлку і кепскае віно, а смяротнасць ад прычын, звязаных з алкагалізмам, павялічылася за сем гадоў у 2,1 разы.

-І нарэшце самае страшнае: стан здароўя падрастаючага пакалення ў Беларусі адзін з самых кепскіх у Еўропе. Усяго толькі 13-15% выпускнікоў школ могуць лічыць сябе поўнасцю здаровымі, каля паловы дзетак маюць функцыянальную паталогію, 40% - хранічныя захворванні.

-Паколькі дзяржаўныя выдаткі на ахову здароўя з 7% у 1994 годзе пры Лукашэнку панізіліся да 5,2 % валавага ўнутранага прадукта ў 1999 годзе пагоршылася якасць медабслугоўвання, бо бальніцы, нешматлікія дамы састарэлых часта не маюць самага элементарнага для нармальнай працы.

Такая горкая і далёка не поўная, аб'ектыўная карціна здароўя народа Беларусі сёння. Напрыканцы зробім канчатковы дыягназ: з такім кіраўніцтвам паляпшэння здароўя нацыі проста немагчымае. Пара гэта ўсвядоміць кожнаму з нас, калі хочам жыць.

*Аналітычная група "Сумежжа"*

# САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СПАБОРНІЦТВА ЗА ДАТЭРМІНОВАЕ ГАЛАСАВАННЕ



Парламенцкія выбары сталі гісторыяй. Але да іх яшчэ будуць і будуць вяртацца, вакол іх не суціхне палеміка. Найперш таму, што гэтыя выбары – чаго не хавае ўжо ніхто – сталі своеасаблівай рэпетыцыяй перад выбарамі прэзідэнцкімі. Выбарамі, якія і сапраўды могуць нешта істотнае ўнесці ў палітычнае жыццё рэспублікі.

Як выбаршчык я да прайшоўшых выбараў цікавасці не меў. Напярэдадні выказаўся ў "Сумежжы", што не бачу істотнай розніцы ў праграмах двух кандыдатаў. Але як журналіст, канечне ж меў да гэтых выбараў немалую цікавасць. Таму і прысутнічаў у якасці наглядальніка на адным з гарадскіх выбарчых участкаў, у час датэрміновага галасавання аб'ехаў каля дваццаці выбарчых участкаў у Пастаўскім і Браслаўскім раёнах. Так што ўражанняў хапае, ёсць пэўныя ўяўленні аб тым, што ж сапраўды такое – выбары ў нашай глыбінцы. Прадбачу, што і надалей афіцыйныя ўлады будуць цвёрда стаяць на пазіцыі прызнання выбараў поўнасцю дэмакратычнымі. У той жа час апазіцыя гэтак жа цвёрда будзе абвяргаць гэту дэмакратычнасць. Прычым, калі раней да еўрапейскай супольнасці, апелявала найперш апазіцыя з просьбай падтрымаць яе прызнанні недэмакратычнасці, то цяпер і афіцыйныя ўлады недвухсэнсоўна звярнуліся да гэтай жа супольнасці з просьбай у прызнанні дэмакратычнасці выбараў, а , значыць, і легітымнасці парламента. Але гэта палітычныя гульні. Артыкул жа гэты пішацца з іншай мэтай. На аснове ўласных назіранняў я паспрабую паказаць у нашым выбарчым працэссе ( падкрэслю, я маю на ўвазе толькі глыбінку), тыя месцы, дзе сапраўды могуць быць неадназначныя ацэнкі, дзе ёсць немалая аснова для спрэчак і абвінавачванняў. Калі мы сапраўды імкнёмся да пабудовы дэмакратычнай дзяржавы, павінны ж мы прыглядацца да свайго жыцця і бачыць у ім тое, што, магчыма, замежным назіральнікам і не бачна.

Як журналіст помню правядзенне ў Пастаўскім раёне выбарчых кампаній яшчэ ў пачатку семідзесятых гадоў. І вось што кідаецца ў вочы. З таго часу насельніцтва раёна практычна не памянялася. Калі і ёсць змены, то ў межах некалькіх тысяч. А вось колькасць выбарчых участкаў у параўнанні з тым часам зменшылася ўражальна. Менее насельніцтва на вёсцы? Але ж і ў самім райцэнтры колькасць выбарчых участкаў таксама зменшылася нашмат. І гэта нельга вытлумачыць толькі эканоміяй сродкаў. Любы прадстаўнік апазіцыі зробіць адназначную выснову. Чым больш выбарчых участкаў – тым большая колькасць людзей патрабуецца ў камісіі. А іх і сёння падбіраюць з вялікімі цяжкасцямі. Трэба ж туды людзі поўнасцю правераныя, не заўважаныя не тое што ва ўдзеле ў дзейнасці нейкіх неафіцыйных структур, нават у сімпатыях да іх. Магчыма, ёсць і іншыя прычыны, але гэта будзе заўжды на слыху.

Тады, у семідзесятыя, пры стварэнні камісій доўга не вагаліся, у асноўным складаліся яны з настаўнікаў. Сёння ўжо ў райвыканкамах падыходзяць да справы асцярожней. Не ўсё настаўніцтва адпавядае патрабаванням бяздумнай падпарадкаванасці і адданасці. Пра тое ж, каб дапусціць у камісіі прадстаўнікоў партый, грамадскіх арганізацый, акрамя камуністаў, зразумела, і БПСМ, і размовы не ідзе. Між тым выбары ў Югаславіі, пасля якіх адбыліся ў гэтай краіне такія карэнныя перамены, вызначаліся найперш тым, што ў кожнай, падкрэслю, у кожнай выбарчай камісіі прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх палітычных партый і арганізацый, якія прымалі ўдзел у выбарах. Зразумела, гэтага ў нас не адбудзецца, зразумела, "абкатаныя" на парламенцкіх выбарах камісіі практычна не будуць зменены. А таму ў апазіцыі будзе поўнае права папракаць улады на месцах менавіта ў гэтым: недапушчэнні яе прадстаўнікоў у склад самых важных, участковых выбарчых камісій.

Як я ўжо казаў, напярэдадні выбараў, у час датэрміновага галасавання, давялося пабываць на многіх вы-

барчых участках. І практычна паўсюль было бачна, што ўлады ўзялі курс менавіта на датэрміновае галасаванне ў вёсцы. Можна нават сказаць, што было арганізавана своеасаблівае сацыялістычнае спаборніцтва паміж калгасамі, сельсаветамі за датэрміновае галасаванне. Арганізоўваўся транспарт, ехалі агітатары. Прывяду толькі адзін прыклад. На Белькаўскім выбарчым участку №40 на 14 гадзін 11 кастрычніка 2000 года з 437 выбаршчыкаў прагаласавала 153 альбо 35 працэнтаў. І гэта пасля адзінаццаці гадзін з афіцыйнага пачатку галасавання. Зразумела, што вяскоўцы не самі дружнымі калонамі рушылі на выбарчы ўчастак. Была прадуманая, дакладная арганізацыя і агітацыя. І тут прадстаўнікам апазіцыі ёсць пра што гаварыць. Па- першае, пры такой арганізацыі падвозкі, дастаўкі людзей на ўчасткі вельмі лёгка праводзіць і адпаведную агітацыю, "падказваць" дастаўляемым на ўчасткі вяскоўцам, што і як ім трэба на гэтых участках рабіць. Па-другое, пры датэрміновым галасаванні, асабліва на вёсцы тым партыям, рухам, арганізацыям, якія зацікаўленыя ў кантролі за дэмакратычнасцю выбараў, вельмі цяжка арганізаваць гэты самы кантроль. Ну, у дзень выбараў само-сабой зразумела. Але ж калі гэтыя самыя выбары цягнуцца амаль што тыдзень – тут ужо належнага кантролю не арганізуеш.

Увогуле, сам прынцып датэрміновага галасавання неяк мала стасуецца з прынцыпамі дэмакратычнасці выбараў. Ёсць анекдатычныя праявы. Так, у час нашага наведвання Дунілавіч у памяшканні сельсавета ішло датэрміновае галасаванне, а побач у клубе праводзілася сустрэча з кандыдатамі ў дэпутаты. Навошта тады забараняць агітацыю і ў дзень саміх выбараў? Несправядлівасць атрымліваецца. Той, хто галасуе датэрмінова, можа паслухаць агітатараў, а той, хто ідзе на ўчастак у дзень выбараў, гэтай магчымасці пазбаўлены. Закон цьмяна гаворыць аб тым, хто мае права галасаваць датэрмінова. Практычна ўсе. Праўда, члены выбарчых камісій нібыта і павінны цікавіцца, чым выкліканы датэрміновы прыход на ўчастак. Але на практыцы гэтага не было, ды што там, калі, як ужо гаварылася вышэй, вялося сацыялістычнае спаборніцтва за датэрміновае галасаванне.

У час наведвання сельскіх выбарчых участкаў, я займаўся яшчэ і тым, што фатаграфаваў скрыні для датэрміновага галасавання. Праўда. На другі дзень, відаць, пасля адпаведнай каманды зверху старшыні выбарчых камісій рэзка перапынілі гэту маю дзейнасць. Хаця была яна поўнасцю ў рэчышчы закона. Што ж так напужала шаноўных прадстаўнікоў улады на месцах? Сам выгляд скрынь для галасавання. Нестандартныя, самыя разнастайныя, яны выклікалі апраўданае падазрэнне. На некаторых пячаткі былі амаль што незаўважныя, на многіх адсутнічала папера з подпісамі членаў выбарчай камісіі. Здавалася б, для таго, каб спыніць усялякія размовы і папрокі, каб дабіцца сапраўды дэмакратычнай працэдуры дастаткова зрабіць скрыні адпаведнага ўзору, напярэдадні галасавання ў прысутнасці ўсіх зацікаўленых бакоў апячатаць і абклеіць іх, даць магчымасць і прадстаўнікам зацікаўленых бакоў паставіць на паперы подпісы – і тады пытанні будуць знятыя. Але на многіх участках і гэтага зроблена не было. Вось чаму прадстаўнікі апазіцыі маюць права на недавер, на пэўныя высновы. А тое, што начамі на выбарчых участках у непрыстасаваных умовах спалі ці драмалі міліцыянеры – гэта выклікае толькі словы спагады да міліцыянераў.

Такім чынам рэпетыцыя будучых прэзідэнцкіх выбараў адбылася. І прадстаўнікі ўлады, і прадстаўнікі апазіцыі зробяць з яе свае высновы. Самым ідэальным было б тое, каб абодва бакі знайшлі агульную мову ў галоўным: зрабіць працэдуру галасавання сапраўды дэмакратычнай, такой, якая б не выклікала падазрэнняў і нараканняў. Дабіцца гэтага можна, практычна, без лішніх выдаткаў і арганізацыйных мерапрыемстваў. Галоўнае – жаданне сапраўды працаваць на карысць дэмакратыі. Але, наколькі мне думаецца, гэтага не будзе.

***Алесь Касцень***

xxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxx

## АБ ЧЫМ ПІСАЛА "СУМЕЖЖА"

### Кастрычнік 1993 года

"Як бадзёра зазначыў наш аптыміст-прэм'ер В.Кебіч, хоць і адсталі мы ад Расіі ў правядзенні эканамічных рэформ, затое Беларусь захавала стабільнасць, якой не можа пахваліцца ніводная дзяржава СНД. 1-га кастрычніка, як і месяц раней, стабільна ў шмат разоў павялічыліся ў нас тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі, электраэнергію і цэны на газ. Затым зноў стабільна ірванула ўверх цана на гарэлку, падрос кошт праезду на аўтатранспарце…

У параўнанні з намі паліцы ў расіян поўныя, не ідзе ў іх гаворка аб нейкіх там талонах. Цукар, тры-пяць гатункаў каўбасы заўсёды свабодна можна купіць нават у раней "галодных" абласцях – Бранскай і Смаленскай. У нас жа "стабільнасць": адсутнасць бензіну, халодныя кватэры і ўспаміны аб такім панацці, як гарачая вада, якая пэўна, з'явіцца ў гонар 7 лістапада".

P.S. *Такое адчуванне, што гадзіннік часу ў нас дзіўным спосабам спыніўся. Тое, што было пры Кебічы, паўтараецца зноў і зноў. Але вядома, што любая копія ніколі не будзе лепшай за арыгінал. Узгадваць нешта добрае пра гады праўлення паважанага Вячаслава Францавіча не выпадае. Але ж тады хоць волі і надзеі на лепшае будучае было больш. За гады кіравання тав. Лукашэнкі узровень жыцця большасці людзей, сапраўды, упаў "ніжэй калена". Па тэмпах абясцэньвання беларускага рубля да долара ЗША нам роўных нават сярод рэспублік СНД няма. Беларуская валюта ў адносінах да 1 долара ўпала ў 10.400.000 разоў і патаннела ў 85.037 разоў больш, чым латвійскі лат.*

*Якія нашы правадыры з іх курсам над жорсткім кантролем над эканомікай – такое і кепскае жыццё. Між тым, нашы цэны ўжо акрамя малака ўжо апярэджваюць цэны расійскія. Каўбасу з Расіі ўжо можна купіць нават у глыбінцы. Але, што найбольш турбуе, выхад з багны крызісу будзе доўгі і вельмі для ўсіх балючы.*

# РОЗДУМ 7 ЛІСТАПАДА

7 лістапада цікава было параўнаць нават праграму тэлевізійных перадач Беларусі (нашага адзінага тэлевізійнага канала, які чамусьці ўпарта называюць першым, як быццам бы ёсць другі) і Расіі, тут іх сапраўды шмат. Дастаткова сказаць, што прыкладна ў адзін час беларускі канал паказваў высокаідэйны і нават са слязыма на вачах фільм "Камуніст", а ОРТ – фільм "Уразабойца", сама назва якога гаворыць аб змесце. І справа тут не ў прыхільнасці кіраўніцтва каналаў. У Расіі гэты дзень спрабуюць ужо некалькі гадоў адзначаць як дзень прымірэння. Хаця прымірыць непрымірымае немагчыма. А ў Беларусі гэта па ранейшаму – дзень Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, які святкуецца на дзяржаўным узроўні. Аб чым гаварыла і віншаванне беларускага прэзідэнта.



Як мы ўжо да гэтага прызвычаіліся, расійскія тэлеканалы, негледзячы на пэўную адасобленасць іх прэзідэнта ад свята, паказвалі як чырвоных, так і белых. Наш адзіны тэлеканал толькі чырвоных, прычым з адметным сёлета пафасам.

У гэтым зададзеным зверху пафасе можна было вызначыць два галоўныя пункты. Першае: рэвалюцыя дала магчымасць краіне стаць першай сярод сусветных краін у многім, з ёй сталі лічыцца, яна дабілася многага, нават у космас першай сяганула. Другое – Беларусь дзякуючы рэвалюцыі набыла дзяржаўную незалежнасць, магчымым нацыянальнае развіццё.

І з першым і з другім можна паспрачацца. Мне здаецца, і царская Расія ў свеце была краінай, з якой лічыліся, якая многім нават дыктавала свае ўмовы. І, дарэчы, за дзесяцігоддзі прайшоўшыя пасля кастрычніцкай рэвалюцыі ці перавароту астатнія вядучыя дзяржавы свету таксама не стаялі на месцы, шмат чаго дабіліся. Іншая справа, што ўсе дасягненні камуністычнай імперыі густа замешаныя на народнай крыві. Бальшавікі дасягалі многага, але для гэтага мільёны жыццяў губілі з лёгкасцю незвычайнай. Фёдар Дастаеўскі, наш зямляк, якога здаецца, афіцыйныя ўлады яшчэ не запісалі ў свае ворагі, як класіка Васіля Быкава, некалі на ўвесь свет абвясціў, што нельга нават за сусветнае шчасце ахвяраваць слязінкай дзіцяці, прадбачыў бальшавізм, з яго абыякавасцю да чалавека і яго жыцця. Ды што там,цяперашнія бальшавікі і не думаюць аб пакаянні за здзейсненае.

Што ж да Беларусі, то кастрычнік 17-га не даў ёй незалежнасці – гэта школьная ўжо ісціна. Вось Фінляндыя і Польшча паспелі неяк яе выхапіць. Ну а мы, беларусы, незалежнасць атрымалі толькі ў выніку распаду СССР, калі ў гэтым СССР акрамя нас ужо нікога і не засталося. Што ж да пытанняў развіцця нацыянальнай культуры, то тут трэба сціпленька маўчаць. Яна гіне і найбольш шпаркімі крокамі гоняць да пагібелі беларускую мову.

Аб чым падумалася ў гэты дзень дык гэта аб прадстаячым нам аб'яднанні з Расіяй. Нейкія падставы для аб'яднання павінны быць. Эканамічныя? У нас тут не толькі розныя вагавыя катэгорыі, але ж і сама канцэпцыя розная. Як аб'яднаць сацыялістычную Беларусь з капіталістычнай Расіяй? Як бачым, і ідэалогія розная. Там ва ўладзе тыя, хто лічыць Кастрычнік пераваротам, а ў апазіцыі тыя, хто як Зюганаў 7 лістапада (па дзяржаўнаму тэлебачанню, дарэчы), спявае дыфірамбы падзеі, пасля якой палілася ў Расіі кроў. У нас ва ўладзе тыя, для каго кастрычнік рэвалюцыя. Ну, а апазіцыю пачуць немагчыма, бо яна да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі не дапускаецца.

Дарэчы, шмат дзён беларускае тэлебачанне анансіравала, што з 8 лістапада канал пераходзіць на новае вяшчанне, карэнным чынам мяняе сваю канцэпцыю. Пачалося гэта ўрэшце ўжо і 7-га. І вось у галоўнай інфармацыйнай праграме, святочнайц праграме, падкрэслім, са здзіўленнем чуем аб смерці ў Расіі нейкага, сказана вельмі вядомага, ледзь не сімвалічнай фігуры ў культуры, літаратара Зпаходэра. А потым і ўвогуле дзіўны пасаж. Святочная інфармацыйная праграма пачынае расказваць пра тое, што ў Расіі адбылося забойства і злачынца, аказваецца, параўноўвае сябе з героем аднаго слыннага цяперашняга расійскага фільма. Цікава? Не вельмі, такіх забойстваў і такіх параўнанняў і ў нас, і ў Расіі колькі хочаш. Але навошта такія дробныя факты выносіць у галоўную інфармацыйную праграму Першага нацыянальнага тэлеканала Рэспублікі Беларусь? Адказ, магчыма, у тым, што гэта і ёсць новая канцэпцыя тэлебачання? Помніцца, Гебельс гаварыў, што прапаганда павінна быць як мага прымітыўней, а хлусня як мага нахабней... Што ж, пачакаем, паглядзім далей.

А жыццё між тым ідзе. І яшчэ напярэдадні свята многія пастаўчане павінны былі выязджаць у калгасы раёна на ўздым трасты. Надвор'е надвор'ем ды нешта, відаць, не так і ў калгаснай сістэме, калі да гэтага часу сельгасработы не завершаны. І ўрад б'ецца над тым, каб іх давесці да ладу.

*Алесь Касцень*

# ПРАВОДЗІЛІ СВЯТАРА

Летам "Сумежжа" пісала аб канфлікце, які на працягу многіх мясяцаў развіваўся ў Пастаўскай Свята-Мікалаеўскай царкве. Доўгі час яна ўвогуле была на замку, які павесілі на яе вернікі. У рэшце рэшт іх непрымірымасць была пераадолена, духоўныя ўлады паабяцалі разабрацца. Прычыніліся да канфлікта і мясцовыя ўлады, свецкія. Абяцалася, што яшчэ летам царква атрымае свайго святара – а гэта ў канфлікце было бадай што галоўным.

І вось на дварэ лістапад. Але па ранейшаму такі вялікі прыход як пастаўскі свайго святара не мае. Хаця ў свой час тут хапала работы дзвум свяшчэннаслужыцелям. Прыязджае сюды святар з Варапаева. Але яму аднаму на дзве парафіі вельмі цяжка.

Ну а што ж былыя святары царквы? Як складваецца іх лёс?

Айцец Яўстафій пераведзены і служыць у Манькавіцкай царкве.

Доўгі час быў у няпэўнасці айцец Адам. Але нядаўна, нібыта, вырашыўся і яго лёс. Ён выехаў у Віцебск, дзе атрымае месца для службы святаром. Трэба зазначыць, што провады айца Адама прайшлі не зусім звычайна. Напярэдадні яго ад'езду ў дом да святара прыйшло каля ста вернікаў. Айцу ўручылі падарунак, кожны з вернікаў прынёс нешта да развітальнага стала. Многія плакалі. Зазначым, спіртнога на развітальным стале не было. Што ж, такія провады яшчэ раз сказалі аб ужо вядомым : айцец Адам карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод вернікаў. Ды духоўныя ўлады не прынялі гэта ў разлік. У іх, зразумела, іншыя крытэрыі.

***А.К.***

xxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxx

***Блізкая гісторыя. Мой радавод : Лёс сям'і ў XX стагоддзі. Конкурс для школьнікаў.***

***Грамадскае аб'яднанне "Дыярыуш" пры ўдзеле Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Таварыства беларускай школы і Згуртаваньня Беларускай Шляхты абвяшчае конкурс "Мой радавод: Лёс сям"і ў XX стагоддзі",***

*Лёс кожнай сям'і цесна зніітаваны з XX стагоддзем, якое робіцца для нас блізкай гісторыяй. Калі вас цікавіць мінулае, лёс блізкіх вам людзей на пуцявінах веку, калі вам не шкада часу, каб працаваць у архівах і бібліятэках, калі вас захапляюць адкрыцці, спасціжэнне нязведанага, калі вы не баіцеся рабіць арыгінальныя высновы і фармуляваць уласныя ідэі, тады мы запрашаем вас прыняць удзел у нашым даследчым конкурсе.*

*У конкурсе могуць браць удзел вучні сярэдніх навучальных устаноў (пачынаючы з 7-га класа): ліцэяў, гімназій, а таксама навучэнцы каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.*

*Форма конкурснай працы адвольная: сачыненне, эсэ, інтэрв'ю, калаж з фотаздымкаў, фільм і шш. Калі праца нятэкставая (аўдыё-, відэа-, фотаздымкі) — да яе павінна быць далучана пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследавання альбо заключае каментар да крыніцаў.*

*Працу пажадана пісаць па беларускай мове, яе можна выконваць індывідуальна альбо групай, самастойна альбо з дапамогай куратара.*

*Да працы абавязкова павінна быць далучана анкета ўдзельніка з прозвішчам, імем удзельніка, яго каардынатамі і назвай працы, а таксама з прозвішчам, імем і каардынатамі кіраўніка (пры яго наяўнасці).*

***Працу трэба дасылаць у адным асобніку да 1 мая 2001 г. (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: "Блізкая гісторыя", а/с 128, 220064, Мінск.***

***Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 8 ліпеня 2001 г.***

***Усю патрэбную інфармацыю, парады і брашуру, у якой падрабязна выкладзены ўмовы конкурсу, можна атрымаць ад сакратара-конкурсу Ірыны Коваль (па тэлефоне (8-017) 227-51-09, па пошце: "Блізкая гісторыя", а/с128, 220064, г.Мінск). Жадаем поспехаў!***

xxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxx

# ВЯСКОВЫЯ ГІСТОРЫІ

*Не першы год маю магчымасць назіраць жыццё сённяшняй вёскі не наездамі на некалькі гадзін, а жывучы ў ёй досыць працяглы час у розныя поры году. І вось нарадзіўся аповяд, складзены з кароткіх эпізодаў, а то і анекдотаў вясковага жыцця.*

*У дзядзькі Пётры не трэба шукаць прататыпаў. Такога чалавека няма. Але ж і выдуманага тут няшмат. Усё тое, што ёсць у аповядзе, адбывалася, адбываецца, можа адбыцца ў любой вёсцы, з любым яе насельнікам. Трэба толькі сказаць, што вёска гэта знаходзіцца на захадзе Віцебшчыны. Праўда, назва зменена.*

*Алесь* ***КАСЦЕНЬ***



## На ўзмежку

Жонка Аліна прыбегла да Пётры ўся ў слязах.

- Сядзіш, тэлевізар свой усё глядзіш. А там Юзік ад нашага ўзмежка зноў адараў.

- Што адараў? Не крычы ты.

- Бульбу яны за садам садзяць. Ідзі паглядзі. Зноў на наш узмежак залез.

Дзядзька Пётра неахвотна ўзняўся. Стаміўся за дзень. А тут бабскія разборкі. Ды куды ты дзенешся, жонка не адступіцца. Калі ён выйшаў за сад, Юзік ужо выпраг з плуга каня. Пётра кінуў вокам на ўзмежак. А ўзмежак гэты быў месцам гістарычным. Калісьці яшчэ дзядуля ягоны і дзядуля Юзікаў хадзілі тут "у калы". І таксама з-за лішне адрэзанай баразны. Бацькі таксама не тое што варагавалі, але, бывала, што і не віталіся. Але ні Аліна, ні Юзікава Ганна ўжо не маглі ўцягнуць выпетраных цяжкай калгаснай працай мужыкоў, былых механізатараў у свае канфлікты. Яны прызвычаіліся глядзець на кавалак зямлі найперш як на будучую работу, а не на як сваю ўласнасць. Што ж да боку юрыдычнага, то ўзмежак быў пакінуты для таго, каб можна было праехаць павозцы. І належаў ён да Пётравых сотак, касіў яго Пётра. Але Юзік сустрэў суседа весела.

- Ну што, паслала на вайну.

- А няго ж.

- І я са сваёй пабрахаўся. Кажу, досыць садзіць, не будзе чым закрыць бульбу. А яна: "яшчэ баразёнку". Вось і адараў крыху твайго дзірвана.

-Ну і добра, не так разрастацца будзе.

- Закурым?

- Закурым.

Мужыкі дружна прыселі на месца спрэчак.

- Цікавае, Пётра, жыццё ў нашым свеце. Ехаў я тут з раённай бальніцы дадому - другія зубы ўжо мяняю, можа, жую зашмат, як тая карова. Ну дык вось, на аўтастанцыі разгаварыўся з адным. Маладзён яшчэ, гадоў трыццаць. І расказаў ён мне пра Грэцыю, Пётра. Тры гады запар ездзіць ён туды на заробкі. Апельсіны-мандарыны збірае, яшчэ нешта. Не бульбу капае. Але пытаю я: "А што мясцовыя сяляне ці фермеры з вамі працуюць ці як?" А ён расказвае, што іхнія сяляне на полі і не паказваюцца. Вырас ураджай - прадаюць яго на дрэве фірме. А ў той ужо клопат ураджай упарадкаваць, парабкаў нашых наняць. А іхнія сяляне сядзяць у маленькіх рэстаранах каву ды віно п'юць, пра жыццё гавораць. А мы с табой? Пенсію выпрацавалі, а ўсё роўна ад вясны да восені пяклуем. Толькі зімой і пасядзіш, калі жонка ў дровы не пагоніць...

- Спадчына. Атрымау той грэк у спадчыну гектараў трыста саду. Вось і сядзіць сабе за кавай. А колькі б мы з табой атрымалі? У маіх было сем гектараў, ды і ў тваіх не нашмат больш. Ды і апельсіны ў нас не растуць. Бульбачка дробная.

- Які ты, Пётра, памарыць не дасі. Ну, а скажы, хацеў бы ты нарадзіцца селянінам у Грэцыі. І каб саду таго гектараў...

- Яно, канечне, лацвей. Але ж там, кажуць, спёка круглы год. А я спёкі не люблю. А ў нас? На каляды закладу сваю кабылу ў сані. А ў сена бутэльку жытнёвай, каўбасы, сала вэнджанага. Ды у Вішнёўку да шваграў. Кабыпа бяжыць, застаялася, мароз прабірае. А кругом чыста, ціха. Занясеш бутэлечку ў хату, паставіш на стол. А яна, родная, запатнее, чакае. Вечарам працямнее, дадому едзеш - ужо зоркі на небе. Кабыла сама дарогу знае, давязе. Хораша.

Мужыкі задумаліся. А за садам вёска пачала поўніцца вечаровымі гукамі. Праехаў некуды трактар, замычэлі прыгнаныя з пашы каровы. Падала са свайго панадворка голас Аліна. На Юзікавым дварышчы забразгатаў у студні цэп.

- Трэба было б нашых баб памірыць неяк. А то ці баразна лішняя, ці куры не туды залезлі.

- Няхай сабе. Можа, ім так весялей.

**Заснавальнік: Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны**

Рэдактар: **Міхал Гіль**

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84. E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на абсталяванні ВАГА «Фонд імя Л. Сапегі» г. Віцебск.